# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ Б.Г.К.Т.

№ 43 (556) ГОД XI БЕЛАСТОК, 23 КАСТРЫЧНІКА 1966 г. ЦАНА 60 ГР.



Аблічча Белавежы 2)

## Белавежа турыстаў.

Белавежу турыстаў найлепш ведае Вітальд Лаеўскі. З'яўляецца ён кіраўніком Бюро кантролю турыстычнага руху ў Белавежы.

— За 9 месяцаў гэтага года ў Белавежы пабывала 52 тысячы турыстаў, але шчыра кажучы, — заяўляе ён, — не час яшчэ на агульныя падлікі. Турыстычны сезон раскладаецца ў Белавежы на цэлы каляндарны год. Летнія месяцы — ліпень і жнівень — у нас пуставаты. Людзі тады мінаюць Белавежу. Едуць над мора і ў горы. У маі і ў чэрвені найбольш у нас школьных экскурсій. Прыязджаюць яны з многіх куткоў Польшчы. Хіба найбольш людна ў Белавежы ў верасні. Тады пушча найпрыгажэйшая. Пачынаецца сезон палявання, розныя фабрыкі, прадпрыемствы і школы зноў наладжваюць экскурсіі, прыязджаюць замежныя турысты.

**— Што іх найбольш цікавіць у Белавежы?**

— Суровасць прыроды і дасканалыя ўмовы для палявання на дзікі і алені. Прыязджаюць да нас з усіх краін Еўропы, але найболь з Нямеччыны, Аўстрыі і са Злучаных Штатаў Амерыкі. Вось у верасні г.г. знаходзілася ў Белавежы звыш 20 замежных паляўнічых, сярод якіх найбольш было аўстрыйцаў. Гэта багатыя людзі, бо за дазвол на паляванне ў Белавежскай пушчы трэба плаціць доларамі і то дорага плаціць. За забіццё аднаго аленя — у залежнасці ад вагі — прыходзіцца плаціць больш-менш па 1000 долараў. У верасні замежныя паляўнічыя застрэлілі ў Белавежскай пушчы каля 40 аленяў, кожны па звыш 1000 долараў. За нятрапныя стрэлы замежнаму паляўнічаму прыходзіцца плаціць па 30 долараў, а за раненне аленя — 50 долараў. Прынаўся ў нас звычай, што тым паляўнічым, якім удалося забіць звяра, леснікі ўпрыгожваюць капелюшы зялёнай галінкай. Кожны тады ўжо здалёк ведае, што гэты паляўнічы з пустымі рукамі з Белавежы не выедзе. Забірае з сабой чэрап і рогі забітага аленя, мяса астаецца ў нашай сталоўцы.

**— Гэтыя паляванні даступныя сапраўды толькі для багатых. А што прапануеце нармальным турыстам?**

— Тым, хто прыязджае да нас толькі на адзін дзень, прапануем наведаць музей прыроды, этнаграфічны беларускі музей, белавежскі запаведнік прыроды і запаведнік зуброў і тарпанаў. Для тых, хто хацеў бы больш дакладна азнаёміцца з Белавежскай пушчай, прапануем некалькі турыстычных шляхоў, якія праходзяць праз найбольш маляўнічыя ўчасткі пушчы.

**— А што, калі турыст захоча паесці і пераначаваць у вас?**

— Калі толькі захоча паесці, дык бяды вялікай няма Маем у Белавежы дзве сталовыя. Рэдка калі не хапае ў іх абедаў для ўсіх патрабуючых. Але з начлегамі бывае часам горш. Гатэль ПТТК мае толькі 180 ложкаў. Даўжэйшы час будуецца новы гатэль на месцы разбуранага царскага палаца. Беластоцкае прадпрыемства прамысловага будаўніцтва ўжо назначала некалькі тэр-

(Працяг на стар. 4)



Стройныя сосны, якія свой узрост лічаць на стагоддзі, вяршынямі кранаюць хмар.

## Бяда з бядою...

Калісьці, яшчэ два-тры гады таму назад, гаспадары біліся за штучныя ўгнаенні. Ламалі сабе галовы над тым, якімі тут спосабамі дастаць гэтых «гнаёў у парашку». ПЗГС-ы, ГС-ы чуліся, як аптэкары, што выдзяляюць цудоўны лек для замораных гаспадарак...

А цяпер наадварот: ПЗГС-ы на чале з ваяводскім ВЗГС-ам дурацца што тут прыдумаць, каб папрадаць штучныя ўгнаенні, якія маюцца на складах. Пішу гэтыя словы і сам сабе не веру: няўжо нашы гаспадары дачакаліся з пекла раю на штучныя ўгнаенні?

У пачатку кастрычніка на складах знаходзілася каля **адзінаццаці тысяч тон** азотавых угнаенняў — у тым ліку, напрыклад, Сакольскі павет меў **пяцьсот тон**, Бельскі **— дзевяцьсот тон** і т.д. А трэба сказаць, што ў мінулым годзе гаспадары купілі гэтых угнаенняў амаль напалавіну больш, чым у гэтым годзе. Зусім не лепш маецца купля фасфатавых угнаенняў, якіх завалялася на Беласточчыне аж **чатырнаццаць тысяч тон!** Столькі сама і калійных угнаенняў. З беларускіх паветаў толькі адзін Гайнаўскі павет купіў летась больш штучных угнаенняў у параўнанні да мінулага года. Ва ўсіх іншых беларускіх паветах пачалася дзіўная мода на «некупаванне» штучных угнаенняў, якога ёсць у складах літаральна цэлыя горы.

Кіраўнікі вясковага гандлю лічаць, што прычынаю так малой куплі штучных угнаенняў з'яўляецца слабая рэклама іх. Трэба больш хваліць іх. Сапраўды, вытлумачэнне тыпова гандлёвае... Думаю, што кіраўнікі памыляюцца, бо наколькі вядома, трэба яшчэ ўмець ужываць гэтыя «гнаі ў парашку». А слава аб іх ужо даўно разышлася па ўсіх закутках, нават па найбольш глухіх лясных хутарах Сакольшчыны. Аднак жа нашы гаспадары не вельмі ведаюць, як ужываць штучныя ўгнаенні, ды мала хто вучыць іх таго. Даючы першы-другі-трэці год штучныя ўгнаенні атрымоўваецца лепшы ўраджай, але потым ураджаі ўжо не паляпшаюцца так выразна, каб цешыць імі. Бывае часта, што і пагаршаюцца! Кожны свядомы гаспадар ведае тую ісціну, што адно штучнае ўгнаенне не папраўляе ўраджайнасці зямлі **на доўгі час.** Штучнае ўгнаенне дзейнічае, бы лякарства, кароткі час. Патрэбны земельцы натуральны гной. Гэта адна праўда. А другая праўда такая, што штучнае ўгнаенне — гэта не гной, і трэба гэтыя ўгнаенні ўжываць у адпаведны час і ў адпаведным месцы. Прытым, нашы землі моцна заквашаныя і патрэбна ім на гвалт вапна! Ды з вапнаю праўдзівая бяда, рэдка хто хоча купляць яе, мала хто зразумеў і дацаніў першае значэнне яе для паляпшэння ўраджайнасці зямлі.

Факт застаецца фактам: людзі штораз менш купляюць штучных угнаенняў.

(Працяг на стар. 4)

Аляксей Пысін

## НОВЫЯ ВЕРШЫ

* * *

Агонь ці кроў сцякае па дубровах,
І на зямлі сухой агонь ці кроў?
У воблакаў бялёсых і ружовых
Ёсць контуры зямных мацерыкоў. —

Плывуць так нізка афрыкі і індыі,
Прасвечаныя днём да глыбіні;
І ўжо даступны далечы навідныя
І вабяць недаступныя агні.

Над пройдзеным — смалістыя галіны
Здаровых дрэў — без дуплаў для сініц.
І прабіваюцца з пяску і гліны
Сцюдзёныя вулканчыкі крыніц.

І, хоць не ўсё паўторыцца на свеце, —
Я веру ў гэты лес, я веру ў сад,
Дзе чысціню вясны нясуць суквецці
Праз кожны свой барвовы лістапад.

* * *

Рэдка бачым мы птушак сваіх.
А ці помніце тое світанне,
Калі чуў ты зязюль кукаванне
У глыбокіх сутонях лясных?

Адлятаюць ад нас жураўлі
З лістападам, з сухімі вятрамі.
За якімі лясамі, барамі
Вы, крылатыя душы, жылі?

Ланцужок карацей, карацей,
І цішэй развітальныя гукі...
Часам так бачым добрых людзей
У імгненне апошняй разлукі.

* * *

Не ўсе лясы мае згарэлі,
Не ўсе пасечаны сады.
Дубоў жывых каруселі
Ідуць па кругу. Жалуды
Зрываюцца, як небажаты,
Ўзрываюцца, каб прарасці.
Свет незнаёмы, непачаты
Ка мне спяшаецца прыйсці.

## Беларускі вучоны ў ГП БГКТ

Нядаўна з цыклам дакладаў аб вызваленчай барацьбе беларускага народа ў гады гітлераўскай акупацыі выступіў у Польшчы намеснік дырэктара Інстытута фальклору і этнаграфіі Акадэміі навук Беларускай ССР др Адам Залеўскі.

У часе сваёй пабыўкі на Беласточчыне беларускі вучоны 6 кастрычніка г.г. наведаў ГП БГКТ, дзе сустрэўся з кіраўніцтвам нашага таварыства. У тым жа дні госць з Мінска выступіў перад членамі Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку, а ў наступным — наведаў беларускі ліцэй у Гайнаўцы і беларускі этнаграфічны музей у Белавежы. (рл)

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ВІЗІТ ДРУЖБЫ І АДЗІНСТВА

У мінулым тыдні закончыла свой візіт у СССР польская партыйна-ўрадавая дэлегацыя, якую ўзначальвалі І-шы сакратар ЦК ПАРП **Уладзіслаў Гамулка** і прэм'ер **Юзэф Цыранкевіч.** Польская дэлегацыя апрача Масквы наведала Свярдлоўск і Белаярск. У Свярдлоўску нашыя кіраўнікі пабывалі на Уралмашзаводзе, а ў Белаярску — на атамнай электрастанцыі, якая носіць імя прафесара Курчатава. Усе каментатары згодна сцвярджаюць, што польскую дэлегацыю ўспрыймалі ўсюды і ўсе вельмі ветліва.

У Маскве прадыскутавана справы міжнароднай абстаноўкі, у тым усё больш пашыраючуюся амерыканскую агрэсію ў В'етнаме. Абодва бакі згодна сцвердзілі, што палітыка, якую вядзе кіраўніцтва Кітайскай Народнай Рэспублікі ў адносінах да Савецкага Саюза і іншых сацыялістычных дзяржаў, перашкаджае ў вядзенні адпаведнай дапамогі ДРВ. Аб гэтым, між іншымі, гаварылі Брэжнеў і Гамулка на вялікім мітынгу, які адбыўся ў Крамлёўскім палацы з'ездаў. Абодва кіраўнікі партыі навязалі да апошняга выступлення Джонсана, які прыгожа гаварыў аб міры і раззбраенні, сцвярджаючы, што з прыемнасцю павіталі б гэтыя словы, калі б не в'етнамская вайна, якую вядзе не хто іншы, як Злучаныя Штаты.

### У В'ЕТНАМЕ

У пятніцу мінулага тыдня аж 450 амерыканскіх самалётаў на працягу аднаго дня выканалі 173 сцярвятніцкія налёты.

### ПРА БІТВУ ПАД МАСКВОЙ

Ад некалькіх год у СССР вядзецца дыскусія на тэму пераломных баёў і аперацыі ў вайне супраць гітлераўскай Германіі. Быў погляд, што пераломнай была **Сталінградская бітва,** затым, што пераломнай была **бітва пад Курскам.** У апошнім часе кладзецца націск на ранейшы перыяд сцвярджаючы, што пералом наступіў многа раней у канцы 1941 года ў **бітве пад Масквой,** дзе ўпершыню заламаліся гітлераўскія планы.

Цікавыя падрабязнасці на гэтую тэму прыносяць зараз публікаваныя ўспаміны **маршала Жукава** (70 год, ад 1957 года пенсіянер), які быў галоўнакамандуючым Заходняга фронту, які абараняў Маскву. Між іншым Жукаў піша, што Сталін прыймаў асабіста ўдзел у камандаванні аперацыямі пад Масквой, якія не заўсёды былі ўдачнымі (насупраць думкі Жукава загадаў заўчасную контратаку ў палове кастрычніка), а таксама паказвае ролю паасобных камандзіраў і афіцэраў генеральнага штаба.

### ПРЫГАВОР НА РУБІ АДХІЛЕНЫ.

Апеляцыйны суд у Техасе нарэшце разгледзеў справу забойцы Освальда, Рубі. Прыгавор аб смяротнай кары адхілены з працэдурных прычын. Справа будзе разгледжана нанава. Адвакат забойцы мяркуе, што новы прыгавор не павінен быць большы як 2—5 год турмы.

А.К.

## БССР

### ФОРУМ

У Мінскім Доме архітэктара адбылася нарада прадстаўнікоў прафесіянальных саюзаў работнікаў будаўнічай і дрэваапрацоўчай прамысловасці і прамысловасці будаўнічых матэрыялаў сацыялістычных краін: Балгарыі, Венгрыі, Нямеччыны (ГДР), Кубы, Манголіі, Польшчы, Румыніі, Чэхаславакіі, Югаславіі і СССР.

Між іншымі, разгледжана пытанні «бгп» у будаўніцтве.

### АКАДЭМІЯ

У Мінску адбылася вельмі ўрачыстая акадэмія прысвечаная семнаццатай гадавіне Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі.

У акадэміі прынялі ўдзел сакратары Беларускай камуністычнай партыі Сяргей Прытыцкі і С. Пілатовіч.

### РЭКОРД

Фенаменальны Барыс Храловіч устанавіў новы рэкорд свету ў спартыўнай хадзьбе на дваццаць кіламетраў.

### ОРДЭН

А. Зінін, рэдактар папулярнай і ўплывовай штодзённай газеты «Советская Белоруссия» ўзнагароджаны высокім Ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

### КУБІНЦЫ

На Беларусі пабывала дэлегацыя партыйных работнікаў Кубы для вывучэння вопыту беларускіх партыйных арганізацый.

### ТАДЖЫЦКАЙ

У Беларусі адбыўся Тыдзень Таджыцкай літаратуры. Таджыкістан з'яўляецца саюзнай рэспублікай СССР у Сярэдняй Азіі.

### СЕЗОН

Пачаўся тэатральны сезон у тэатрах Беларусі. Газеты паведамляюць аб уданай прэм'еры Гродзенскага рускага тэатра, які паставіў п'есу «Самая каротка ноч» Р. Назарава.

### НОВАЯ

На Беларусі паявілася новая газета. Першага кастрычніка пачаў выходзіць «Железнодорожник Белоруссии». Гэта масавая газета, прызначаная для шырокага кола чытачоў, будзе друкавацца тры разы ў тыдзень.

### МІЗЭРНЫ

Ад пэўнага часу на старонках літаратурных часопісаў часта друкуюцца інфармацыі, артыкулы і рэпартажы пра заняпад у папулярызацыі беларускай культуры — паўтараецца адна і тая ж прычына таго: мізэрны попыт на гэту культуру.

### ДРУГІ

Выйшаў у свет другі том «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры». У гэтым томе асвятляецца развіццё літаратуры ў гады Вялікай Айчыннай Вайны, у пасляваенны перыяд і на сучасным этапе.

(с.я.)

## ПОЛЬШЧА

### САНДАМЕРСКАЕ ПАДЗЯМЕЛЛЕ

Пад горадам Сандомеж выяўлена густую і даволі складаную сетку падзямельных калідораў і праходаў. Найбольш іх пад найстарэйшай часткай горада. Шахцёры з Бытама, якія праводзяць даследванне, сцвярджаюць, што кожны ўчастак падзямельных сандамерскіх калідораў адзначаецца своеасаблівымі якасцямі. Сетка падзямельных праходаў ахоплівае плошчу ў звыш 40 га.

### ШЧЭЦІНСКІ ЮБІЛЕЙ

Пад уладай немцаў Шчэцін ніколі не меў вышэйшай навучальнай установы. Зараз дзейнічае там іх аж тры: Шчэцінскі палітэхнічны інстытут, Паморскі медычны інстытут і Вышэйшая сельскагаспадарчая школа. Першая вышэйшая навучальная ўстанова пачала працу ў Шчэціне 16 кастрычніка 1946 года. Была гэта Вышэйшая гандлёвая школа, якая пазней сталася часткай Шчэцінскага палітэхнічнага інстытута.

Грамадскасць і ўлады Шчэціна ўрачыста адзначылі слаўны юбілей — 20-годдзе першай вышэйшай школы.

### ТЭЛЕВІЗАР І КОЛЕР

Швейцарская фармацэўтычная фірма «СІВА» 14 кастрычніка наладзіла ў варшаўскім Палацы культуры і навукі паказ каляровай тэлевізіі. Пры дапамозе спецыяльнай апаратуры швейцарскай прадукцыі тыпу «Эйдофор» паказала яна складаную аперацыю, якую правёў прафесар Ян Нелюбовіч у І варшаўскай хірургічнай клініцы.

Трансляцыю глядзела каля 3 тыс. лекараў, якія сабраліся ў кангрэсавай зале.

### УЗНАГАРОДЫ МІНІСТРА АБАРОНЫ

У Афіцэрскім клубе Дома Войска Польскага ў Варшаве 14 кастрычніка адбылася ўрачыстасць па ўручэнню ўзнагарод міністра нацыянальнай абароны за выдатныя дасягненні ў галінах: навука аб баявых аперацыях, гісторыя войнаў і войска, навука і ваенная тэхніка, грамадска-эканамічныя навукі, ваенная медыцына, літаратура, успаміны, мастацтва, фільм і т.п. Узнагароды і дыпломы ўручыў асабіста маршал М. Спыхальскі.

### ПАСЛЯ ШКОЛЬНАЙ РЭФОРМЫ

На аснове школьных спіскаў Галоўнае статыстычнае ўпраўленне падлічыла, што ў 1966/67 школьным годзе ў 26.559 васьмікласных пачатковых школах вучыцца 5 мільёнаў 523 тысячы дзяцей. У восьмых класах навуку пачало каля 400 тыс. школьнікаў, што складае 2/3 агульнай колькасці выпускнікоў сёмых класаў.

### ПОЛЬСКІ ЭКСПАРТ

Буйны рост польскай прамысловасці знаходзіць сваё адлюстраванне ў экспартных таварах. 40% экспартных тавараў — гэта прамысловыя вырабы. Прамысловасць даставіла сёлета на экспарт тавараў вартасцю ў 4 мільярды злотых.

## ВАЯВОДСТВА

### ДОМ КУЛЬТУРЫ Ў САКОЛАХ

У вёсцы Саколы Лапскага павета адбылася 16 кастрычніка вялікая ўрачыстасць па прысваенню мясцоваму дому культуры імя Ірэны, Вацлава і Эдварда Крушэўскіх.

Ірэна Крушэўская была афіцэрам польскага войска ў самастойным жаночым батальёне імя Эмілі Плятэр. Разам з гэтым батальёнам прайшла баявы шлях ад Леніна да горада Надажыцы, дзе ад цяжкіх параненняў памерла ў дарозе да шпіталя. Яе брат Вацлаў Крушэўскі — таксама салдат І Дывізіі войска польскага імя Тадэуша Касцюшкі — загінуў у першым баі пад Леніна. Эдвард Крушэўскі супрацоўнічаў з партызанамі. Загінуў у гітлераўскім лагеры.

Ва ўрачыстасцях прынялі ўдзел: намеснік старшыні Рады Дзяржавы, Б. Падэдворны, генерал дывізіі З. Гушча, І сакратар ВК ПАРП А. Лашэвіч, старшыня Прэзідыума ВРН С. Жмійка і другія.

### ШАХМАТНЫ ТУРНІР

У беластоцкім клубе друку — клуб «Сямі» — адбыўся ў нядзелю 13-ты турнір шахматных гульняў на кубак «Газеты Беластоцкай». Спаборнічала 73 шахматысты. Сёмы раз турнір выйграў Богдан Белючык, шахматыст клуба «Ягелёніі».

### САВЕЦКІЯ АРТЫСТЫ

У Польшчу прыехала савецкая эстрадная група пад кіраўніцтвам спевака Віктара Бяседзіна. У яе саставе — музыканты і спевакі. У днях 21—25 кастрычніка савецкія артысты наведаюць Бельск, Гайнаўку, Ломжу і Голдап. Канцэрт у Беластоку назначаны на дзень 24 кастрычніка на 17.30 і 20-ую гадзіны.

### ХУТАРЫ

Сяляне вёсак Анцуты і Рагозы ў Беластоцкім павеце правялі грамадскім чынам камасацыю сваіх палосак.

### ДАБЫЧА СМАЛЫ

У лясах Варміі і Мазур звыш тысяча чалавек займаецца дабычай сасновай смалы, якую дастаўляюць у фабрыку ў мясцовасці Гарбатка на Кілеччыне. Сабралі яны ў гэтым гаспадарчым годзе каля 1800 тон жывіцы. Фабрыка ў Гарбатцы перапрацоўвае яе на каліфонію і тэрпентыну.

### 10-ГОДДЗЕ СМВ

Усе члены вясковых гурткоў Саюза вясковай моладзі рыхтуюцца да ўрачыстага адзначэння юбілею ўласнай арганізацыі — 10-цігоддзя заснавання СМВ, які прыпадае ў снежні. Гурткі прымаюць абавязацельствы працаваць грамадскім чынам, а павятовыя канферэнцыі СМВ падводзяць вынікі дзесяцігадовай працы.

### НА БУДОВУ ШКОЛ І ІНТЭРНАТАЎ

Жыхары Беластоцкага павета на працягу 10-ці месяцаў г.г. сабралі на грамадскі фонд пабудовы школ і інтэрнатаў звыш 1 мільён злотых, што складае каля 80-ці працэнтаў гадавога плана. Грамада Канавалы свой гадавы план перавыканала на 135 працэнтаў. Найгорш аднак збор грошай праходзіць у грамадах: Гарадок, Багданкі і Фасты.

## Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

**NIEDZIELA, 23.X.**

8.20 Politechnika TV. Geometria wykreślna — „Obroty i kłady" cz. I; 8.55 Politechnika TV. Chemia — „Kinety i statyka reakcji chemicznych"; 9.25 31 lekcja jęz. ros.; 9.45 Politechnika TV. Matematyka — „Nierówności liniowe" cz. II; 10.15 Program dnia; 10.20 Dla młodych widzów: „Sport i zabawa z Theo Dollem" (Poczdam); 11.15 PKF; 11.25 „Rita" — opera Donicetti'ego (film); 12.15 Wiad. dz. TV; 12.25 „Buster Keaton znów na szlaku" — film USA; 13.20 „Rozruch" — rep. film. („Ludzie i zdarzenia"); 13.35 „W zielonym obiektywie"; 14.00 Teatrzyk dla przedszkolaków: „Ogromny kłopot"; 14.40 „Rudy, miód i krzyże" — film tv pol. („Czterej pancerni i pies"); 15.30 „Mecenas Adam Kowalski" — widowisko; 16.20 „Piórkiem i węglem"; 16.40 Program filmowy; 18.30 „Wielka gra"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 „Słownik wyrazów obcych"; 20.20 Niedziela Sportowa; 20.40 „Pokochaj moją siostrę" — film fab. fr.; 22.05 Wiadomości sportowe.

**PONIEDZIAŁEK, 24 X.**

16.50 Program dnia; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla dzieci: „Przygody błękitnego rycerzyka" — film; 17.10 Dla młodych widzów: „Refleks"; 17.30 „Klakson"; 17.50 „Jutro będzie zima"; 18.15 Kino Krótkich Filmów; 18.45 „Eureka"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 Teatr TV: „Beniowski" Juliusza Słowackiego; 21.05 Koncert z okazji „Dnia ONZ" (transmisja z Paryża); 22.10 Dz. TV; 22.25 „Na półkach księgarskich".

**WTOREK, 25.X.**

9.55 Dla szkół: (kl. IX) Język polski — Sofokles „Król Edyp" („Dzieje dramatu"); 10.35 „Umrzeć w Madrycie" — film fab. fr.; 11.55 Dla szkół: (kl. V i VI) „Pierwsze słowo" („O miejsce wśród ludzi"); 12.25 Przerwa; 15.55 Program dnia; 16.00 Politechnika TV. Matematyka — „Wspólne własności stożkowych"; 16.30 Politechnika TV. Matematyka — „Zmiana układu współrzędnych"; 17.00 Wiad. dz. TV; 17.05 Dla młodych widzów: „Młodzi wynalazcy"; 17.20 Dla młodych widzów: „Kościuszko w Krakowie" („Klub pod Smokiem"); 17.50 Informator handlowy; 18.00 Kurs Rolniczy: Mechanizacja w produkcji zbożowej" („Produkcja zbóż"); 18.30 „Prezentujemy zespoły taneczne; 18.55 „Bryza"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Umrzeć w Madrycie" — film fab. fr.; 21.40 Wszechnica TV; 22.10 Dziennik TV; 22.25 Program na jutro; 22.30 Politechnika TV. Matematyka — „Wspólne własności stożkowych"; 23.00 Politechnika TV. Matematyka — „Zmiana układu współrzędnych".

**ŚRODA, 26.X.**

9.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „O sile i jej mierzeniu"); 10.30 „Wspomnienie zła" — film („Baron"); 11.20 Przerwa; 12.45 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Korozja — wróg metali"; 13.15 Przerwa; 15.45 32 lekcja jęz. ros.; 16.05 Program dnia; 16.10 „Przypominamy, radzimy"; 16.20 PKF; 16.30 Film rozrywkowy; 16.45 Wiad. dz. TV; 16.50 Teatr Młodego Widza: „Niejawny Zespół Filmowy „SFINKS"; 17.40 „Nie tylko dla pań"; 18.00 Wszechnica TV: „Jeszcze jedna bariera czyli o niezawodności" („Perspektywy"); 18.30 „Muzyka dawna krajów Europy Środkowej i Wschodniej"; 19.00 „Priorytety"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 „Mocarstwa na trzech wzgórzach" — rep. z San-Marino (film); 20.15 „Wspomnienie zła" — film („Baron"); 21.05 „Światowid"; 21.35 „Na półkach księgarskich"; 21.45 Dz. TV; 22.00 Teatr TV: „Chłopcy" Stanisława Grochowiaka.

**CZWARTEK, 27.X.**

10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Język polski — „Władysław Broniewski" („Spotkania"); 11.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Sztuka starożytnej Grecji"; 12.25 Przerwa; 16.25 32 lekcja jęz. franc. ; 16.50 Program dnia; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla dzieci: Kino Ptyś; 17.20 Dla młodych widzów: „Klub Pancernych"; 17.40 „Medale i detale"; 18.00 Informator turystyczny; 18.10 „Sylwetki X Muzy" — Aleksandra Śląska; 18.35 „Kiedy trzeba podjąć decyzję"; 18.55 „Szukamy przeboju" — program rozrywkowy; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 „Drogowskaz"; 20.15 Teatr KOBRA: „Obraz w czarnej ramie" Jaroslav Langer; 21.15 Trybuna Telewizyjna; 22.00 Dz. TV; 22.15 Program na jutro; 22.20 32 lekcja jęz. franc..

**PIĄTEK, 28.X.**

9.55 Dla szkół. (kl. VII) Zajęcia techniczne — „Ciepło i kształt"; 10.25 Przerwa; 12.00 Dla szkół: (kl. II) „Kolory jesieni"; 12.15 Przerwa; 16.25 32 lekcja jęz. ang.; 16.50 Program dnia; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka"; 17.15 Dla dzieci: „Obcy" — film („Bella i Sebastian"); 17.45 Film; 18.05 „Wielokropek"; 18.25 „Czwarta zmiana"; 19.00 „Nr 149.859" — rep. film.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz: TV; 20.00 TV Kurier Mazowiecki; 20.15 Teatr TV: „Albertusy" (utwór anonimowy — rybałtowska komedia plebejska XVI w.); 21.35 „10 minut recenzji"; 21.45 Dz. TV; 22.00 Magazyn Medyczny; 22.30 Program na jutro; 22.35 32 lekcja jęz. angl.

**SOBOTA, 29.X.**

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Geografia — „Czechosłowacja" („Wędrówki po świecie"); 10.55 Dla szkół: (kl. V) Geografia — „Kształt ziemi"; 11.25 „Vivere in pace" — film fab. wł.; 12.55 Przerwa; 16.15 Program dnia; 16.20 Program tygodnia; 16.35 Dla nauczycieli: „Czy można uniknąć konfliktu" („Psycholog radzi") (kłopoty z nastolatkami); 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla młodych widzów: „Czy masz dobrą pamięć?" — telekonkurs; 17.40 „Sąd nad kotem Mruczkiem" — film fab. jug.; 18.50 „Gawędy wilków morskich"; 19.05 Filmowy program rozrywkowy; 19.20 Dobranoc ;19.30 Monitor; 20.00 „W Luwrze" — film; 20.30 Dz. TV; 20.45 Wiadomości sportowe; 21.00 „San Remo pozdrawia Zurich" — progr. rozrywkowy (Zurich); 22.15 „Vivere in pace" — film fab. wł.

# Аня

Поезд кранаецца са станцыі Гайнаўка і ідзе ў Бельск. Увайшоўшы ў вагон, праходжу праз калідор і ў адным купэ бачу пажылую жанчыну, якая чытае «Ніву». Я прысеў каля яе. Выняў з сумкі «Ніву» ды таксама давай чытаць. Так праглядзелі мы каля 5 мінут. Потым пачуў яе голас:

— Куды едзеш, малады чалавек?

Я, збянтэжаны ад такіх гучных слоў, адказваю:

— Еду ў Бельск купіць сёе-тое.

— Ты беларус? — прагаварыла зноў жанчына ўжо ласкава.

— Так, я беларус! — адказаў я. І так, слова па слове і дайшло ў нас да цікавай гутаркі. Жанчына расказвала аб сваім жыцці. Я з такой зацікаўленасцю слухаў, што нават не чуў, як іграла ў суседнім вагоне гармонь.

— Маё жыццё, малады чалавек, было вельмі цяжкае. І страшнае. Мела я 16 гадоў, як пачалася вайна. Бацька мой пайшоў на вайну, а дома асталася толькі я з мамай. Жылі на вёсцы, апрацоўвалі 7 га зямлі. На нашыя сілы было гэта вельмі цяжка. Так мы на гэтай зямельцы прамучыліся два гады.

Пры гэтых словах незнаёмая прыціхла. Я думаў, што ўжо канец расказу, але глянуў на яе і заўважыў слёзы ў вачах. Бачачы, што жанчына плача, я пачаў яе супакойваць:

— Не плачце, гэта, што было, ужо прайшло. Забудзьце ўсё. А яна сказала. — Не, малады чалавек, я гэтага не забуду ніколі. Жанчына пасядзеўшы крышку ціха, давай далей расказваць:

— Калі я мела 18 гадоў, ад цяжкай працы памерла мая мама. З таго часу я не мела што рабіць і пайшла да суседа каровы пасвіць. А пад зіму думала пакончыць з сабою, бо не мела ўжо дзе дзявацца.

Так мне прайшоў адзін месяц. Каровы пасла ад цямна да цямна. Ежа была слабая. У поле брала з сабой у торбу кавалачак хлеба і кубачак. Калі піць захочацца, дык надаю малака і нап'юся. Абедам маім было заўсёды малако з хлебам. Наступіў другі месяц. Спачатку было яшчэ цёпла, але пры канцы padула холадам. Калі я пасла каровы, да мяне з лесу прыбягаў хлапец гадоў дзесяць і расказваў, што цяпер дзеецца на свеце, дзе і як далёка дайшлі немцы, што чуваць у вёсцы і гэтак далей. Гэты малы быў сынам лесніка. Звалі яго Лёнем. Лёня прачынаўся раненька і заходзіў да бацькі ў кабінет, ды слухаў, што гавораць людзі, якіх штодзень было там поўна. Часта нават прыносіў мне саланіны, або кавалачак мяса і ўсё падрабязна расказваў, што толькі падслухаў. Аднойчы Лёня прыбягае да мяне і, яшчэ не аддыхаўшыся, сказаў, што арганізуецца ў нашай пушчы нейкая армія «партызанка». Толькі сказаў і пабег дамоў. На другі дзень Лёня да мяне не прыйшоў. Я вельмі непакоілася, а дзень быў такі доўгі, што нават на полі задрамала. Хлапец не прыйшоў і на трэці дзень, і на чацвёрты. Думала ўжо, што больш ён да мяне не прыдзе. І вось раненька, ледзь свет, бачу, хтосьці да мяне ад лесу ідзе. Думала, што гэта Лёня і хацела крыкнуць, але ў гэтай жа хвіліне заўважыла, што да мяне ідзе ляснік, яго бацька. Уся пачала ад страху дрыжэць, прамільгнула думка: напэўна дзесьці Лёня прапаў. Калі падыйшоў бліжэй ляснічы Іван (так яго звалі), ён прывітаўся са мною і заявіў, што калі б я хацела, то вельмі была б патрэбна партызанам. Я згадзілася. На другі тыдзень, як прыгнала пасвіць каровы, паявіўся Лёня. Ён сказаў, што ўжо добра пазнаёміўся з партызанамі і ведае, што гэта слова абазначае. Сказаў мне, што ў атрадзе іх ужо трыццаць дзве асобы і пабег хуценька ў вёску. Гаспадар, у якога я пасвіла каровы, быў нямецкім солтысам, і калі даведаўся, што я ўступіла ў партызанскі атрад, страшыў, што хутка мне пятлю немцы на шыю наложаць. Толькі ён яшчэ шкадуе. Калі я пачула такія словы, кінула пасвіць каровы і пайшла да хаты лесніка. Там сустрэла савецкіх байцоў. Мне вельмі спадабаўся лейтэнант Коля. Я яму таксама. З таго часу дома не жыла. Жыла ў партызанскай зямлянцы, была кухаркай. Коля мяне пакахаў і мы з ім пажаніліся. Тут жанчына на хвіліну зноў прыціхла.

— Калі наш атрад разросся, штодзень хадзілі на заданні. Аднойчы Масква прыслала нам яшчэ дзесяць салдатаў. Мы вышлі ім насустрач. Як падашлі, я заўважыла знаёмы твар. Гэта быў мой бацька. Я пазнаёміла папу са сваім мужам, Колем, а потым падрабязна расказала аб маме і сваім жыцці. З таго часу мы трымаліся разам: Коля, Лёня, бацька і я. Наш атрад наносіў немцам вялікія страты, і яны рашылі знішчыць нас. Бой гэты працягваўся пяць гадзін. Нашых загінула больш як сто чалавек. У тым ліку быў забіты мой муж, Коля, і бацька, а я з Лёнем былі цяжка ранены. Больш я ўжо ваяваць не хадзіла, была кухаркай. Мне балела правая нага. Яна і цяпер шванкуе...

Тут цягнік рушыў з Бельска ў Беласток. Я на хаду выскакваю з вагона. Толькі паспеў яшчэ запытаць праз акно: — Як вас завуць? — Яна гучным голасам адказала: — Аня!

**М. Тэлешэўскі**
Бел. ліцэй у Гайнаўцы

# КЛУБ ліцэіста

## Канікулы

Была нядзеля...

Наступаў ужо змрок. На дварэ чуліся вясёлыя галасы моладзі. Відаць арганізавалі вечарыну. Я вышла на ганак. Было цёпла і ціха. Дзяўчаты спявалі песні. Мне сціснула сэрца, і я хутка павярнула ў хату. Чаму я такая нешчаслівая? — невядома які ўжо раз падумала я. Маім сябрам і сяброўкам весела, а я адна, мне цяжка на сэрцы і вельмі сумна.

Як я чакала канікул, як цешылася заканчэннем навучальнага года. Мае гадавыя ацэнкі былі даволі добрыя, і я чакала вясёлых канікул. Аднак...

Гэта была першая нядзеля канікул. Мае сябры і сяброўкі вярнуліся са школы, і мы разам вельмі весела правялі нядзелю. Дадому я прышла пазней, чым заўсёды. Бацьку гэта не спадабалася. Ён сказаў, што я яшчэ вучаніца, што павінна сядзець над кніжкай і забараніў мне выходзіць у нядзелю на вуліцу. Я думала, што гэтага не перажыву. Ці ж я горшая за ўсе? Цэлы год старалася вучыцца, а і ў час канікул няма перапынку. Я адчувала вялікі жаль да бацькі. Чаму ён мяне не разумее? Я ж таксама павінна мець нейкую разрыўку. Цяпер я жыву без ніякай мэты. Мае дні падобныя адзін да другога. Толькі з непакоем чакаю нядзелі, бо ведаю, што цэлы дзень прасяджу адна. Нават сяброўкі не прыходзяць. Толькі кніжкі, найлепшыя сябры, яны пры мне асталіся. Пасля нейкага часу я бачу, што магла б бацьку пераканаць. Але цяпер не хачу гэтага рабіць. Хачу цярпець. А можа бацька правільна зрабіў? Можа ён так паступае з думкай аб маёй будучыні.

**«Суседка»**

# Іх дружба — сапраўдная

Так увогуле Валя з Ленай знаёмы ўжо 4 гады. Спачатку знаёмства іх праяўлялася толькі ў тым, што штодзённа бачыліся ў цягніку, даязджаючы ў школу, у якой абедзве вучыліся. Валя амаль зусім не звяртала ўвагі на ціхую. скромную дзяўчыну, толькі тая часам праводзіла не зусім сімпатычным позіркам разбаўленую, заўсёды вясёлую Валю.

Але калі па двух гадах дзяўчаты апынуліся ў адным класе, чамусьці вельмі хутка пасябравалі. Вучыліся тады ў дзесятым класе. Ужо першыя дні верасня правялі разам. Толькі, калі займалі сабе месцы ў партах, Лена села з Ірынай. Пэўна не ведала, як Валі было крыўдна, што не сядзяць разам... Але ніколі пасля дзяўчаты не гаварылі з сабою на гэтую тэму. Адлегласць некалькіх метраў у класе не перашкаджала іх сяброўству, якое вельмі хутка пераўтварылася ў сапраўдную дружбу. Ніводнай гадзіны не маглі прасядзець, каб не напісаць і перадаць сабе спрытна звінутага скрутачка паперы — вядома, усё рабілася так, каб не прынесці шкоды сабе і настаўнікам. Лена і Валя не былі першымі вучаніцамі ў класе. Бывала па-рознаму, часам лепшая ацэнка, часам слабейшая. Не сведчыць гэта аднак аб тым, што дзяўчаты лёгкадумна адносіліся да навукі. Проста стараліся, наколькі маглі і заўсёды з пашанай адносіліся да настаўнікаў. Тое, што радавала адну, радавала і другую. Калі прыкрасць спаткала каторую-небудзь з іх, перажывалі супольна. Не мелі ўжо перад сабой ніякіх таямніц, расказвалі сабе ўсе свае прыгоды, перажыванні, розныя здарэнні і заўсёды дзяліліся ўражаннямі. Што гаварылі паміж сабой, не выносілася абсалютна па-за іх маленькі свет, а гэта нават дзіўна, бо сярод дзяўчат розныя весткі пераважна ідуць як па тэлефону. Бывала, сядуць сабе дзве сяброўкі ля печы ў класе пасля ўрокаў, зробіцца ўтульна, прыемна, як дома, разгаворацца так што... спозняцца на цягнік. Выцягваюць у такім выпадку кніжкі і рыхтуюць урокі на наступны дзень. Вядома, дадому заедуць позна, зараз змрочыць сон, а тады, непадрыхтаваная хоць ты не ідзі ў школу. Калі перайшлі ў адзінаццаты клас, пісалі да сябе ў час канікул пісьмы, стараліся часта сустракацца. Знаёмыя і незнаёмыя бачылі іх заўсёды разам, хтосьці нават «сястрычкамі» іх назваў. Так яны «сястрычкамі» і асталіся. Валя, цёмнавалосая, кучаравая, з трохі задзёртым носам, мела відавочна падабенства да сінявокай прыгожанькай Леначкі. Уласціва — гэта Валя старалася прыпадобніцца да сваёй сяброўкі — раздумлівай, апанаванай, разумнай дзяўчыны. Валя добра ведала аб сваіх некаторых дрэнных рысах характару. Старалася пазбыцца лёгкадумнасці і брала прыклад з Лены.

Неўзабаве надышоў час матуральных экзаменаў. І так, як хацелася скончыць ліцэй, так мучыла сяброваk думка, што іх дарогі жыцця могуць пайсці ў розныя напрамкі. Сколькі перажытага з часоў экзаменаў асталося ў памяці сяброваk, ведаюць толькі яны самыя. Так хацелася, каб здаў матуру ўвесь клас, два класы — «а» і «б», усе выпускнікі ва ўсіх школах. Урэшце хвіліна шчасця — уручэнне атэстатаў сталасці...

Лена накіравалася ў Беласток, Валя здала экзамен на беларускую філалогію Варшаўскага універсітэта. Цяпер ужо вядома, разам не будуць, але ніколі, ніколі не парвуць з сабой сувязі, ніколі не забудзе адна другую. Іх дружба не парвалася разам з разлукай. Проста — пісьманосец будзе мець больш працы. Лена і Валя памяняліся сваімі фотаздымкамі, падпісанымі на адвароце: «каханай сястрычцы...»

**«Венера»**

# V БЕЛАРУСКІ МІЖШКОЛЬНЫ ДЭКЛАМАТАРСКІ КОНКУРС

V Беларускі міжшкольны конкурс праводзіцца ў рамах XIII агульнапольскага дэкламатарскага конкурсу і тэматычна навязвае да 1000 гадавіны існавання Польшчы. Мэтай конкурсу з'яўляецца паглыбленне пашаны да роднай мовы, пашырэнне цікавасці да самастойнага вывучэння творчасці паасобных беларускіх пісьменнікаў.

Конкурс будзе праведзены ў дзвюх формах: дэкламацыі індывідуальнай і калектыўнай.

У конкурсе можа прымаць удзел кожны вучань сярэдніх школ і класаў V—VIII школ падставовых, а таксама групы вучняў гэтых школ.

Конкурс будзе праведзены трохступенна:

а) класныя і міжкласныя конкурсы ў паасобных школах да 13.XI. 1966 г.

б) міжшкольныя павятовыя — 20.XI. 1966 г.

в) цэнтральны конкурс — 27.XI. 1966 г. у Беластоку.

Кожны ўдзельнік конкурсу можа выступіць не больш як з двума творамі.

На цэнтральны конкурс Бельскі павет прышле 10 найлепшых дэкламатараў — вучняў школ падставовых і па 3 вучні ад дзвюх сярэдніх школ. Гайнаўка — 10 вучняў школ падставовых і 3 — сярэдняй школы. Беласток — 7 вучняў школ падставовых і 2 — сярэдняй школы. Саколка і Сямяцічы па тры вучні. Акрамя гэтага кожны павет можа прыслаць на цэнтральны конкурс па 2—3 дэкламатарскія калектывы. Колькасць удзельнікаў дэкламацыі не абмяжоўваецца, залежыць яна ад патрэб дэкламатарскага твора.

Аб'яўленне вынікаў конкурсу і разданне рэчавых узнагарод пераможцам цэнтральнага спаборніцтва адбудзецца непасрэдна пасля яго заканчэння 27.XI. 1966 г.

### УКАЗАННІ ДА АРГАНІЗАЦЫІ КОНКУРСУ

V Беларускі конкурс з'яўляецца мастацкім мерапрыемствам. Таму шмат увагі прысвяціць трэба выхаваўчай працы, якая павінна папярэдзіць конкурс.

Дэкламатар падрыхтоўваючыся да конкурсу, пастараецца добра пазнаць аўтара, рысы яго творчасці, характар эпохі і г.д.

Увазе ўдзельнікаў конкурсу прапануецца паэзія і проза. У імкненні да дасягнення выхаваўчай ролі конкурсу арганізатары павінны ахапіць ім як найбольшую колькасць вучняў, а таксама павінны стварыць атмасферу адказнасці за свой уласны калектыў і школу ў барацьбе за першае месца.

У сувязі з тым дэкламатараў на міжкласныя конкурсы тыпаваць павінны самі вучні паасобных класаў.

У школах пасля прыезду з цэнтральнага конкурсу дэкламатараў трэба арганізаваць па гэтай прычыне школьныя ўрачыстасці.

**Галоўнае праўленне БГКТ**
**Кураторыум Беластоцкай школьнай акругі**

# Падпіска на беларускія часопісы

**Толькі да 31 кастрычніка можна зрабіць падпіску на беларускія часопісы, якія выдаюцца ў Беларусі, на 1967 год. Падпіску прымаюць павятовыя аддзелы «Руху». Пасля 31 кастрычніка заявы на падпіску прымацца не будуць.**

**Для школы Кураторыум школьнай акругі ў Беластоку прапануе наступныя часопісы:**

**«Вясёлка» — цана 24 зл, № пазіцыі ў каталогу 74845.**

**«Бярозка» — цана 24 зл, № пазіцыі ў каталогу 74822.**

**«Вожык» — двухтыднёвік, цана 36 зл. № пазіцыі — 74844.**

**«Настаўніцкая газета» — (104 нумары ў год) цана 52 зл, № пазіцыі ў каталогу 63867.** **(яч)**

(Працяг са стар. 1)

# Белавежа турыстаў.

мінаў перадачы ў карыстанне гэтага гатэля. Але ўсё яшчэ не відаць канца работы. Будуюць яго за грошы Міністэрства лясніцтва. У адно- і двухасабовых пакоях змесціцца ў новым гатэлі 135 асоб.

**— Разам тады зможа ў Белавежы начаваць звыш 300 турыстаў.**

— Гэта не зусім так, бо некаторыя прапануюць разабраць цяперашні гатэль, бо ён, гавораць, не мае ніякай архітэктурнай вартасці. Трэба вам ведаць, што за цара была ў ім канюшня.

**— Думаю, што ўлады не дапусцяць да гэтага.**

— Я таксама думаю. Проста нельга дапусціць, каб разабраць гэты гатэль, які б ён не быў. Белавежа стаецца ўсё больш папулярнай у свеце. Вось на пачатку верасня адбываўся тут міжнародны кангрэс мікрабіёлагаў. З'ехалася 180 вучоных. І што я зрабіў бы, калі б тады прыехалі нейкія другія турысты? У новым гатэлі за начлег прыдзецца дорага плаціць. А ў старым нават за 10 злотых можна пераначаваць на агульнай зале.

**— Што цікавага ў Белавежы прапануеце турыстам зімой?**

— Зімой найбольш папулярныя ў нас карнавальныя і навагоднія балы, паездкі санямі па пушчы і гульні ля вогнішчаў. На навагоднія балы прыязджаюць да нас турысты аж з Варшавы, здараецца таксама, што і з-за мяжы. Ахвотных вельмі многа.

Гутарыў і фатаграфаваў
**В. Рудчык**




**Белавежскі нацыянальны парк. Кожны турыст, асабліва з-за мяжы, як правіла фатаграфуецца на фоне гэтых варот. На здымку бачым турыстаў з Францыі .**

(Працяг са стар. 1)

# Бяда збядою...

усё роўна, як бы страцілі давер да іх — як бы страцілі веру ў тое, у што раней так моцна ды шумна верылі, дабіваліся. Хтосьці скажа: от табе і наеліся гэтага дабра! Аднак такі жарт будзе неапраўданым. Наша зямля ва ўсходняй Беласточчыне моцна патрабуе штучных угнаенняў. У сакольска-гайнаўскіх вёсках даюць на адзін гектар не больш чым каля дваццаці кілаграмаў штучнага ўгнаення ў, так званым, чыстым рэчыве. Тым часам сярэднія вылічэнні для цэлай Беласточчыны складаюць сорак і больш кілаграмаў. Значыць, гаспадары заходніх і паўночных паветаў даюць у два-тры разы больш! У заходніх ваяводствах гэтыя кілаграмы лічацца лічбаю 100, 120 і яшчэ больш!

Значыць, нашы палеткі моцна недакормленыя, але, відаць, абходзімся мы з імі, бы тая няўрыслівая нянька, якой здаецца, што калі дзіця маўчыць, то не хоча есці.

Прыведзеныя ў гэтым артыкуле лічбы гавораць самыя за сябе і добра падумаўшы, дык тут розум сам лезе да галавы.

Мне штосьці здаецца, што ў апісанай тут сітуацыі вялікая віна аграномаў і, так званай, агранамічнай службы. Некаторыя «казённыя» асветнікі люду не грашаць залішнім запалам да таго, каб падказваць нашым гаспадарам, як лепш можна жыць. А лепш жыць цяпер напэўна можна. Помню рэвізійную справаздачу аб сельскагаспадарчых курсах у Бельскім павеце. У гэтай справаздачы гаварылася аб некаторых агрономах, якія знеахвоцілі гаспадароў да тых курсаў, не стрымоўвалі дадзенага імі слова адносна пунктуальнага вядзення курсаў для гаспадароў. Гаспадары збяруцца ўвечары ў школе на курс і не могуць дачакацца прыезду агранома. Дачакаўшыся агранома, зноў не разумеюць, што ён гаворыць ім, бо гаворыць ён такою вучонаю моваю, аж спаць хочацца... Не дбаецца аб тое, каб гаспадара зацікавіць здабычамі сельскагаспадарчай навукі, так патрэбнай у добрым гаспадаранні. Штучныя ўгнаенні — гэта таксама здабыча сельскагаспадарчай навукі.

І ляжыць горамі гэта здабыча ў ПЗГС-аўскіх ды ГС-аўскіх складах, як той папсаваны трактар каля трактарыста-няўмекі... (С.Я.)

# ТРАДЫЦЫІ + КЛІМАТ

Прайшло сто гадоў ад часоў паклікання на польскіх землях першых Ашчадна-пазыкавых спулдзельняў (СОП). За перыяд свайго існавання з невялікіх пачаткова пунктаў выраслі ў сур'ёзныя сялянскія банкі, якія робяць мільённыя абарачэнні, якія праз сістэму крэдытавання і фінансавай абслугі асноўным чынам уздзейнічаюць на гаспадарчае і культурна-грамадскае жыццё вёскі.

Асаблівага росквіту Ашчадна-пазыкавыя спулдзельні набіраюць пасля другой сусветнай вайны.

Спрыяльны грунт, які стварыла народная айчына для ўсялякіх калектыўных пачынанняў, ажывіў спулдзельчы рух, даючы яму перспектывы развіцця, аб якіх ва ўмовах капіталістычнага ладу цяжка было нават марыць.

Зараз СОП-ы даводзяць на вёску цэласць крэдытнай дапамогі ў аб'ёме кортка і доўгатэрміновых пазык для індывідуальнай гаспадаркі. Даючы выгадны крэдыт Ашчадна-пазыкавыя спулдзельні ліквідавалі ліхвярства, якое гаспадарыла на вёсцы, і стварылі ўмовы да пэўнасці і развіцця спрыяючай перспектывы на будучыню.

Роля СОП-аў не агранічваецца толькі да самага працэсу звязанага з даваннем пазык, але стараюцца яны праз крэдыт рабіць уплыў на сельскагаспадарчую прадукцыю, а асабліва на тыя галіны, якія з увагі на традыцыі, глеба-кліматычныя ўмовы, рэянізацыю і патрэбы народнай гаспадаркі маюць аптымальныя ўмовы развіцця ў дадзеным асяроддзі.

Колькасць крэдытаў, якія размяркоўваюць СОП-ы, з кожным годам паказваюць сур'ёзныя тэндэнцыі ўзросту, што даказвае, што сялянскія гаспадаркі перастаўляюцца на дарогі інтэнсіўнай гаспадаркі, гэта значыць такой, дзе абапіраючыся на пабольшаныя выдаткі на адзінку плошчы вырошчвання стараюцца атрымаць максімальны даход у даных умовах.

І так, напрыклад, калі ў 1960 годзе агульная сума ўсіх крэдытаў, дадзеных СОП-амі Беластоцкага ваяводства, склала 244 мільёны зл., то ў 1965 годзе асягнула ўжо каля 600 мільёнаў.

У 1960 годзе СОП-ы на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства далі пазык на суму 72 мільёнаў зл. у сувязі з падпісанымі сялянамі кантрактацыйнымі ўмовамі, а ў 1965 г. сума дадзеных крэдытаў на кантрактацыю склала 223 мільёны зл.

Незалежна ад крэдытнай дзейнасці СОП-ы вядуць і ашчадную дзейнасць. Хаця традыцыі ў галіне распаўсюджвання ідэі ашчаджання СОП-ы маюць вялікія, таму што з самага пачатку свайго існавання магчымасці крэдытавання абапіраліся на сабраныя ашчадныя ўзносы, то аднак да 1956 года былі толькі пунктамі збору ашчадных узносаў на ПКО. Пераломным момантам у развіцці СОП-аў было наданне ім у 1956 годзе Міністэрствам фінансаў новага статута, які зрабіў магчымым пашырэнне іх спулдзельчага самакіравання, а таксама кругу гаспадарчай дзейнасці.

Навязваючы да добрых традыцый звычаёвага накаплівання ашчаднасцей у даўнейшых Касах Стэфчыка і Народных банках, выкарыстоўваючы палепшанне эканамічных умоў і спрыяючы грамадска-палітычны клімат на вёсцы, дзякуючы палітыцы вялікіх выдаткаў на сельскую гаспадарку СОП-ы разгарнулі паспяхова ашчадную дзейнасць. Ужо ў першых гадах 1958—60 СОП-ы Беластоцкага ваяводства змаглі завербаваць 31 тысячу ўкладальнікаў, якія на сваіх адкрытых у СОП-ах ашчадных кніжках сабралі ў так кароткі перыяд 67 мільёнаў злотых.

У 1961—65 гадах лічба ашчадных кніжак узрасла да 179 тысяч, гэта значыць блізка шасцікратна.

Сума ўнесеных грошай, пераважна жыхарамі вёскі, пабольшылася звыш пяцікратна і асягнула 390 мільёнаў зл.

Стварэнне выгадных умоў мела асноўны ўплыў на развіццё спулдзельчага руху і дзякуючы таму мае вялікі наплыў членаў, якія ахвотна дэкларуюць узносы, маючы перакананне, што ўнесеныя імі грашовыя сродкі дапамогуць у актывізацыі гаспадаркі спулдзельні, а гэтым самым і краіны.

**Рышард Цабан**
нам. дырэктара Ваяводскага аддзела СОП

# ДВА ГАДЫ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЙ ПАДРЫХТОЎКІ

Каб даць магчымасць паглыбляць свае веды гаспадарам, якія зараз працуюць на гаспадарцы, ваяводскія ўлады апрацавалі і выдалі ў 1964 годзе адпаведныя пастановы ў справе масавай сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Згодна з гэтай пастановай у паветах і пры ГРН паўсталі спецыяльныя калектывы да каардынацыі сельгаспадрыхтоўкі.

Мінае два гады працы як калектыўнай, так і падрыхтоўкі гаспадароў. А гэта аказія да пэўных рэфлексій і абагульненняў. Дзеля азнаямлення з гэтай формай павышэння ведаў мы пазнаёміліся з праблематыкай іх працы ў Бельскім павеце.

### АРГАНІЗАЦЫЯ

У Бельскім павеце вытыпавана 59 вёсак і г. Бранск да вядзення двухгадовай сельскагаспадарчай падрыхтоўкі г. зн. 22% агулу мясцовасці. Не многа, але і не мала ўлічваючы кадравыя і іншыя магчымасці. Трэба было лічыцца і з тым, што ў некаторых мясцовасцях трэба будзе адкрываць па 2 пункты, таму што максімальная колькасць слухачоў не можа перавышаць 50. Такія выпадкі заіснавалі, напрыклад, у Аўгустове і Бранску. На працягу двух гадоў планавалася перарабіць 30 тэм. Але на жаданне гаспадароў некаторых вёсак уведзена дадатковую тэматыку: як выкарыстоўваць электрычныя прылады ў гаспадарцы. Заняткі пераважна праводзіліся ў школах, святліцах, а ў некаторых мясцовасцях у прыватных памяшканнях. Агульна кажучы аб прыватных памяшканнях, то былі яны зацесныя, недастаткова асветленыя, а таксама не мелі асноўных навуковых дапаможнікаў. Добра спісаліся паасобныя ГРН, якія змабілізавалі на вучобу 2797 гаспадароў, і што важнае, у гэтым ліку больш чым 250 жанчын.

### РЭАЛІЗАЦЫЯ ПЛАНА ПАДРЫХТОЎКІ

Міма тых ці іншых недахопаў, сельгаспадрыхтоўка выклікала вялікае зацікаўленне ў гаспадароў. Прыкладам таго можа быць і тое, што на 1860 планаваных заняткаў праведзена 1865. Прысутнасць на занятках — адна з вышэйшых у ваяводстве (у граніцах 85—90%). Аб папулярнасці «шкалення» сведчыць і тое, што ў апошняй выбарчай кампаніі многа вёсак патрабавала, каб у іх арганізаваць пункты сельгаспадрыхтоўкі.

### ПРАКТЫЧНЫЯ ЗАНЯТКІ

У вясенне-летнім перыядзе мелася адбыцца па 6 практычных заняткаў. Міма таго, што гэта вельмі важнае ў праграме курсаў, не ўсюды ўдалося здзейсніць. Хаця адбылося іх 269 да паловы верасня (72,3%), то з прычын кепскіх атмасферычных умоў нельга было правесці прадбачаных праграмай заняткаў. Колькасць прысутных у параўнанні да заняткаў тэарэтычных была многа меншая. Усё ж такі практычныя заняткі прынеслі плён. Заложана 200 участкаў на абшары 38 гектараў. Засеяна і засаджана іх такімі раслінамі як: люцэрна, кармавая капуста, азімая віка і другія. Апрача таго заложана 180 розных дэманстратыўных участкаў з інтэнсіўным мінеральным і арганічным угнаеннем ільну, рапсу і іншых.

### ПРАДУКЦЫЙНЫЯ ВЫНІКІ

Цяжка гаварыць аб поўнасці вынікаў. Напэўна плёны іх будуць відавочны ў наступаючых гадах у выглядзе больш сучаснага і лепшага гаспадаравання. Але ўжо можна падаць іх першыя наглядныя прыклады. Амаль усе гаспадары ў Плёсках у гэтым годзе пасадзілі бульбу на належнай глыбіні і таму маюць лепшыя плёны, а таксама лягчэй іх капаць пры дапамозе машын. У Котаўсі пасля заняткаў на тэму садаводства гаспадары пастанавілі пасадзіць 4 гектары саду з адпаведнымі сартамі дрэў. На тэрыторыі ГРН Храбалы, Галады, Рыбалы і іншых гаспадары скрозь пачалі прымяняць хімічную барацьбу з пустазеллем і шкоднікамі раслін. У Орлі і Кашалях пабудавана 9 умяшчальнікаў на гнаявую жыжку.

Курсы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі маюць і будуць прыносіць пажаданыя вынікі. Але каб дабіцца поўных эфектаў у наступных гадах, трэба прыцягнуць да сельгаспадрыхтоўкі ўсіх гаспадароў вёскі. У адносінах да нядбайных трэба прымяніць усе формы грамадскага ўздзеяння, пачынаючы ад суседзяў, добрых гаспадароў, радных, членаў партыі, аж да адміністрацыйных спосабаў уключна. **А. Карпюк**

# МАРШЫРУЕ ВОЙСКА Ў КУЛЬТУРЫ

Мы змяшчаем аб ім матэрыял пасля Кангрэсу Культуры, але ён адбыўся перад. Быў прысвечаны Кангрэсу, складаў і складае частку агульнага вялікага культурнага руху ў краіне.

Гутарка аб сейміку культуры колаў вайсковай моладзі ўнутраных войск, які адзіны і першы ў Польшчы адбыўся ў горадзе Беластоку. З выпадку такой падзеі ўбачым мы войска, як вялікі культурна-асветны і выхаваўчы арганізм.

Авангардам вайсковай культуры з'яўляюцца колы вайсковай моладзі (КМВ), якія гуртуюць найлепшых, найактыўнейшых жаўнераў. А яны ўжо змагаюцца за культуру для ўсіх.

Якая ж гэтая культурна-асветная праца войска?

Пералічваю запісаныя найважнейшыя яе формы. Лекцыі на розныя тэмы, спатканні з цікавымі людзьмі: ветэранамі ваеннымі і цывільнымі, з пісьменнікамі, акцёрамі, фільмовыя клубы (называецца гэта, напрыклад, фільмовыя панядзелкі), дыскусіі (напрыклад, дыскусійныя серады), выезды ў тэатры. чытальніцтва і конкурсы, краязнаўчыя паходы праз краіну і праз яе гісторыю Цікавыя хлопцы, мудра гавораць, як не часта здараецца пачуць пра культуру Вось прадстаўнік з Мазоўша: «Культура — гэта не толькі спорт і тэлевізар. Вучымся глядзець карціну мастака, слухаць добрую музыку. Вучымся спажываць культуру ў яе шматграннасці».

З Падляшша задумоўваецца: «Як са звычайнага чалавека родзіцца герой» і на патрыятызм паказвае — як на галоўны элемент.

З Кракава выяўляе думкі, «як выкараніць з войска яшчэ часты вульгарызм?» Хочуць хлопцы, каб кожны жаўнер быў прыкладным і ў казармах, і на пропуску. Каб заўсёды ўсім спяшыў у патрэбе з дапамогай. Каб, вярнуўшыся з войска, далей застаўся актыўным у сваім асяроддзі. Гэта амбіцыі, якім шырокую дарогу!

На Слёнску добрае супрацоўніцтва вайсковых застаў з грамадскімі бібліятэкамі. Вядзецца абмен кніжкамі. У Любліне шырокае самавыхаванне: як жаўнер выглядае, яго вопратка, паводзіны. Усё важна! Люблінякі прынялі апеку над пэўнай знішчанай дашчэнту ў час акупацыі вёскай. Са скромных жаўнерскіх складчын збудавалі ў вёсцы школу — Тысячагодку. А цяпер у далейшым забавязаліся штомесяц плаціць на фонд будовы школ і інтэрнатаў.

У запісках сваіх з жаўнерскага культурнага сейміку знаходжу словы зноў хлапца з Падляшскай каманды ВОП: «Нашым заданнем фармаваць жаўнера. які многа ведае, жаўнера — чалавека культурнага».

**Вера Леўчук**

# Узнагарода А. Карпюку

У гарцэрскай Галоўнай Кватэры ў Варшаве адбылася прэс-канферэнцыя з удзелам прадстаўнікоў варшаўскай тэлевізіі і радыё, а таксама журналістаў варшаўскіх газет. Канферэнцыя была склікана для аб'яўлення вынікаў конкурсу на найлепшыя публікацыі аб гарцэрскім жыцці, аб выхаваўчай працы сярод моладзі.

У гэтым конкурсе прымала ўдзел многа журналістаў з усяе Польшчы, якія прадставілі на конкурс звыш пяці тысяч апублікаваных артыкулаў, рэпартажаў і публіцыстычных інфармацый аб дзейнасці гарцэрскай арганізацыі і яе выхаваўчым уплыве на сучасную моладзь. Журы конкурсу прызнала ўзнагароды для дзесяці журналістаў — у тым ліку знайшлося сямёх журналістаў варшаўскіх газет, тэлевізіі і радыё. Сярод журналістаў с-паза Варшавы ўзнагароды атрымала ўсяго трох журналістаў: з Быдгашчы з Любліна і з Беластока. Узнагароджаным журналістам з Беластока **з'яўляецца наш рэдакцыйны калега Аляксей Карпюк.**

Шчыра віншуем! (ся)




## З × ТЭАТР

Першая п'еса тэатра Вянгеркі ў Беластоку «Звязда Севіліі» Лапэ дэ Вегі пастаўленая ў новым 1966/67 сезоне са сцэны ваяводскага тэатра рушыла ў тэрэн. Гэта камедыя — драма, дзе ёсць усё: і кароль, і прыгожыя дзяўчыны, і паядынак на шаблі даволі добра разыграны паміж Казімежам Бароўцам і Кшыштафам Зембінскім.

Другая п'еса (тэатр Вянгеркі ставіць усярэднім адну п'есу ў месяц) «Шкляная менажэрыя» Уільямса — выдатнага сучаснага амерыканскага драматурга. Цікавы спектакль, які таксама ў канцы кастрычніка ўжо можна будзе глядзець на павятовых сцэнах.

Гаворачы аб тэатрах, паведамляю (асабліва малых гледачоў), што Беластоцкі кукальны тэатр «Свершч» паставіў мілую казку-праўду Марыі Кан «Казка пра зачараванага качара» ў рэжысерыі Іаанны Пякарскай. З ёю аб'ездзіць так сама ваяводства. Мы раім паглядзець зачараванага качара.

## РАМАНТЫЧНЫ ВЕЧАР МУЗ

Прафсаюзы пачалі свой новы культурна-асветны год чарговым вечарам званым прыгожа «Трома музамі» (паэзія, музыка, мастацтва). На гэты раз вечар быў прысвечаны польскім рамантыкам, з якіх найважнейшыя: А. Міцкевіч, Ю. Славацкі, Ц.К. Норвід з яго 145 гадавінай нараджэння. Гучэла несмяротная музыка Шапэна.

## КЛУБ У СТАРЫМ ЛЯЎКОВЕ

Нарэшце ў «забітым куце», як называюць часам раён Ляўкова, з'явіўся клуб. Клуб сарганізаваны «Рухам». Будзе змяшчацца ў двух пакоях у хаце **Сяргея Барэчкі** ў Старым Ляўкове (якое неўзабаве і святло электрычнае атрымае). Памяшканне з праходнымі дзвярыма мае звыш 50 кв. метраў плошчы. Гэта многа і многа можна тут рабіць добрага і цікавага. Ці будзе яно, пабачым. Залежыць ад ляўкоўцаў.

Клуб у Ляўкове з'яўляецца 18 клубам «Руху» ў Гайнаўскім павеце.

## КУЛЬТУРНЫ КАМБІНАТ У НАРАЎЦЫ

Слаўны Гайнаўскі ПЗГС рыхтуе культурнае нападзенне на Нараўку, якая, мо дзякуючы перад усім ПЗГС, стане вядомым культурным і турыстычным цэнтрам раёну. Паводле верагодных крыніц, у Нараўцы будзе культурны камбінат. У вялікім памяшканні, якое існуе ў асяроддзі, памесцяцца розныя культурныя ўстановы: клуб, кавярня, чытальня, бібліятэка. Усё атрымае сучаснае і выгоднае абсталяванне. (вл)

# Выстаўка, якой не было

Штодзень 2000 асоб уліваецца ў Музей у Ратушы пры Рынку Касцюшкі ў Беластоку, каб паглядзець, якой была зброя на працягу 1000 год на Беласточчыне. Экспанатаў сабрана многа з усіх войнаў, усіх паўстанняў.

Зброя, шапкі, партрэты людзей — воінаў. Вельмі ўсё гэта багатае і цікавае. Асабліва для вучняў і пачатковых, і сярэдніх школ тут на вочы ўся гісторыя. Вось калючая мачуга з XIV стагоддзя, пісталет Стэфана Чарнецкага, гармата з XVIII стаг., пісталет з часоў студзеньскага паўстання, героем якога, як ведаем, быў Кастусь Каліноўскі. Фатаграфію яго побач з Валерым Врублеўскім рэпрадукуе выставачны фальдэр, выдадзены спецыяльна на выстаўку, што асабліва падкрэслівае заслугі Каліноўскага. Са студзеньскага паўстання сабрана нямала экспанатаў, якія хоць старой, але жывой мовай прыпамінаюць тыя бурлівыя і цяжкія часы. Перад уваходам у музей пастаўлены дзве гарматы, да якіх можна дакранацца. Наведвальнікі, асабліва хлопцы, карыстаюць поўнасцю з такога права. Памайстраваць пры старой зброі цікава.

(вл)



**А. Баршчэўскі, В. Швед.**




## ХРЭСТАМАТЫЯ ДЛЯ VIII КЛАСА

### ПОМСТА

Людзі былі ўжо блізка. Займалі ўвесь запылены гасцінец. Адны ўзброіліся проста дубінамі, іншыя трымалі ў руках сапраўдныя вінтоўкі.

Васька нічога не разумеў. Стаяў з адкрытым ротам і здзіўлена глядзеў на людзей.

І вось падбег да яго Грышка Максімюк.

— Вася, давай з намі! — крычаў. — Пашку Беразінскага судзіць будзем!

Сэрца Ваські затраслося, бы ашалелае. Не верыў сваім вушам.

— Што? Што ты сказаў?! — рвануў Грышку за рукаў.

— То ж чуеш! Пашку Беразінскага...

Васька добра знаў Паўла Беразінскага. Беразінскі быў пляменнікам яго хроснага Лявона Мароза. Калі ўдалося яму ўвайсці ў склад равіцкай партыйнай ячэйкі,* калі ўрэшце стаў яе кіраўніком, пачаў без аглядак цягнуць людзей, нават багацеяў з Загорак; работу разгортваў амаль яўна, нагаварвау людзей, каб збіралі зброю і абяцаў усім рэвалюцыю, якая ўзнікнуўшы ў Равісках, разлілася б нястрымным пажарам на ўсю Польшчу.

Адзін Мароз не згаджаўся з Паўлам ды людзей перасцерагаў, што ліхам закончыцца такая работа. Народ аднак так моцна жадаў свабоды, што Пашкавы казкі знаходзілі многа прыхільнікаў. Ды яшчэ думалі, што Мароз зайздросціць Паўлу Беразінскаму яго адвагі. Не ведалі тады яшчэ, што Пашкаву адвагу бароніць і аплачвае... паліцыя ў Бельску.

Калі Павел Беразінскі сабраў у свае рукі ўсе ніткі, падбухторыў равішчан да падатковай забастоўкі. Васька быў тады ўжо спорым хлапчуком. Памятае. што ўсё пачалося, калі секвестратар — гэты скурадзёр Даласевіч — завітаў да Якіма Юрчука. Крык жанчын разрываў проста вушы — так абаранялі яны апошнюю падушку і адзіны кажух.

Людзі сталі за Юрчукамі. Нават разброілі двух паліцыянтаў, якія ахоўвалі секвестратара. Аднак, што з таго, калі пабіты і паніжаны Даласевіч на наступны дзень вярнуўся ў вёску з цэлай ротай паліцыі пад асабістай камандай павятовага каменданта Скаржынскага. Убачыўшы, што рыхтуецца, хросны загадаў Ваську бегчы ў Барыскі, каб паклікаць тамтэйшых таварышоў на дапамогу. Васька ляцеў, бы на крылах. Пакупаўся нават па самую шыю ў ледаватай, як зазвычай восенню, Арлянцы, бо не хацеў бегчы аж да мосту ў Табалах.

А пад равіскаўскай царквой на ўзгорку стаіць камендант Скаржынскі — малы, пузаты, надуты.

— Аддайце ўсё, што патрабуе дзяржава, бо інакш цацкацца з вамі не будзем! Урад наш моцны, мае паліцыю і войска. Падушым вас тут усіх, як клапоў! — пыхліва крычыць, звяртаючыся да жыхароў Равісак.

— Так, паліцыяй — гэтымі сваімі прыслужнікамі — урад можа засланяцца, але вось простыя салдаты, што ў войску, яшчэ не ведаю, у які бок павернуць вінтоўкі, — смела адрэзаў каменданту Янка Шыманскі.

Кінуліся на яго паліцаі, акружылі, як сабакі зайца. Васька схапіў камень, каб швырнуць яго ў паліцая, што выкручваў рукі Янку. Узяў размах, але амаль у той жа момант хтосьці схапіў Ваську за каўнер і паваліў на зямлю, а калі Васька зарыўся носам у пясок, прываліў яго сваім целам. Адначасова прагудзелі першыя залпы, раздаліся крыкі раненых, і Васька пачуў над вухам востры, рашучы голас хроснага:

— Вася, уцякай!

Васька не быў бы задзірлівым Ваською, каб адразу паслухаў загад хроснага, але той добра знаў характар хлапчука, схапіў яго за каўнер і пакуль завязалася сур'ёзная страляніна, адкінуў Ваську ў бяспечнае месца.

На другі дзень не было ў Равісках ніводнай хаты, дзе б не плакалі па кімсьці забітым, раненым або арыштаваным.

Потым яшчэ тры дні бушавала ў вёсцы паліцыя. Білі ўсіх, хто папаў пад рукі, нішчылі ліхі сялянскі дабытак.

У ніжэйшым канцы вёскі, які называюць Ніжыскам, толькі адны Камінскія выйшлі з усяго гэтага цэлыя. Паліцыя не змагла даказаць ім удзелу ў забастоўцы. Аднак на працягу паўгода Камінскі вымушаны быў праз дзень з'яўляцца ў Бельскую паліцыю. У час найгоршай непагадзі вандраваў тады пяшком па дзесяць кіламетраў туды і назад.

За няшчасце, якое сцягнуў на родную вёску Павел Беразінскі, атрымаў ён хутар Ільніска, які застаўся па памершым без наследнікаў войце Янкоўскім. Хутар такі, што толькі зайздросціць — сорак гектараў добрай зямлі ды яшчэ будынкі!

Сядзеў тады Беразінскі за вёскай, зненавіджаны Равіскам і другімі вёскамі. Бо пакуль пачаўся судовы разбор равіскаўскай справы, у час якога выявілася яго сабачая роля, Павел Беразінскі прайшоў паўпавета, нібы хаваючыся ад паліцыі, а ў сапраўднасці выяўляў членаў і прыхільнікаў партыі. Пасля суда баяўся нават у царкве паказацца.

Цяпер вёска ўрэшце адпомсціць за крыўды і няшчасце.

— Шкада, што няма хроснага і Рамана, — думае Васька і з біючым сэрцам прылучаецца да натоўпу людзей. Калі тыя, што ішлі наперадзе, пакінулі гасцінец і звярнулі ў альшыну, сярод якой размяшчалася сяліба Пашкавага хутара. апошнія тапталіся ў туманах пылу яшчэ на дарозе. Пыл сушыў людзям вусны. Таму кліч: «Смерць здрадніку!», які ўзнімаўся над галовамі натоўпу, гучэў неяк хрыпла, а тым самым яшчэ больш грозна, аж мурашкі па спіне бегалі...

**Марыя Шулецкая**

Урывак з аповесці пра Райск

1. Ахарактарызуй жыццё беларусаў у даваеннай Польшчы і параўнай яго з сённяшнім днём.
2. Якую ролю выконваў Павел Беразінскі?
3. Равіскі — гэта вёска Райск у Бельскім павеце. Знайдзіце гэтую вёску на карце і напішыце вучням райскай школы ліст з просьбай, каб апісалі вам лёсы сваёй вёскі перад вайной і ў час акупацыі.

**Біяграфічны даведнік**

Шулецкая Марыя — сучасная польская пісьменніца. Нарадзілася ў Маскве ў 1918 годзе. Выдала аповесць «Плынь». У апошнім часе падрыхтавала аповесць, прысвечаную жыццю і барацьбе вёск: Райск у Бельскім павеце.

# Трыбуна чытачоў

## Піражкоўскія агароднікі

Некаторыя жыхары Піражкоў, як Уладзімір Малішэўскі, Рыгор Рубашны, Яўгень Малішэўскі і іншыя, многа вырошчваюць памідораў, цыбулі і часныку. Вырошчваннем агародніны значна павысілі яны свае даходы. Некаторыя з гэтых плантатараў пакуплялі матацыклы, а Яўгень Малішэўскі пабудаваў прыгожую мураваную хату. А. С.

## Слаба з контрактацыяй жыта

З кантрактацыяй збожжа ГС-ы на Сакольшчыне маюць сур'ёзныя цяжкасці. Асабліва слаба ідзе кантрактацыя жыта. А гэта таму, што гаспадары не маюць эканамічнага зацікаўлення. Куды лепш кантрактаваць грэчку або бульбу. За яе ёсць прэмія па 75 зл. ад цэнтнера і ўлічваецца яна ў абавязковыя пастаўкі.

Кантрактаваная бульба таксама плоціцца многа даражэй. А жыта плоціцца столькі, колькі плоціцца яно па вольнарынковай цане. Праўда, за закантрактаванае жыта ёсць пяршынства ў пакупцы высакаякаснай пашы. Але гэта не бярэ, не пацягвае гаспадароў. Неабходная прэмія за закантрактаванае жыта, тады не будуць мець ГС-ы ніякіх цяжкасцей з кантрактацыяй гэтай культуры. А. С.

## Працы па вушы

Пры кожнай грамадскай радзе нарадовай пакліканы такія камісіі як: сельскагаспадарчая, асветная, культурная, бюджэтная і іншыя. Пакліканы яны таксама пры ГРН у Рыбалах. З пяці рыбалаўскіх камісій належна працуе толькі адна - бюджэтная. А ўсе апошнія амаль не праяўляюць дзейнасці.

Бюджэтная камісія разглядае і прапануе бюджэт ГРН, разглядае просьбы сялян аб льготах у падатках і іншых вясковых аплатах. Праца бюджэтнай камісіі даволі складаная, даволі цяжкая, таму што тут трэба быць азнаёмленым з матэрыяльнымі ўмовамі сялян, трэба ўглыбляцца ў аргументацыю заяў, каб не дапусціць памылкі ў прызнанні або непрызнанні льгот таму ці іншаму гаспадару. У 1965 годзе рыбалаўская бюджэтная камісія адбыла 10 пасяджэнняў, а ў гэтым годзе — 6. Амаль ва ўсіх выпадках трапна падышла да ўсіх сялянскіх просьб. Гэтую камісію ўзначальвае былы член КПЗБ — Кандрат Нікалаюк з Паўлаў. (мх)

## Вугаль

Як паведамляюць нам, у ГС-ах ужо ёсць дастатковая колькасць вугалю. Сёлета кожны гаспадар можа купіць сабе вугалю на зіму. (ся)




Дарагое Сэрцайка!

Заўсёды раіў сабе сам. Аднак цяпер не ведаю, як паступіць. Два гады таму я пазнаёміўся з дзяўчынай з суседняй вёскі. Яна мне падабалася. Пасля некалькіх спатканняў я прапанаваў ёй жаніцьбу. Аднак яна адмовіла, таму што я перад войскам. Незадоўга пасля гэтага я пайшоў у армію. Хутка ўжо маю вярнуцца. Цэлы час мы перапісваліся. Вельмі часта я яе наведваў, прыязджаў у водпуск. Аднак апошнімі месяцамі атрымаў ад Ніны пісьмо, што не хоча далей перапісвацца са мной. Чаму, не напісала. Я перастаў пісаць, аднак усё аб ёй думаў. І вось якая радасць, калі гэта можна так назваць. Два тыдні таму я атрымаў ад яе пісьмо. У пісьме перапрашала за свой учынак. Выясняла, што сама не ведае, па якой прычыне напісала тады да мяне ліст, просячы мяне, каб больш да яе не пісаў і не прыязджаў. Мне аднак сябры мае гаварылі, што нібыта яна мела іншага. Я ёй адпісаў і абяцаў прыехаць у водпуск. Сэрцайка, напішу табе праўду, што цяпер вельмі тым задаволены і з нецярплівасцю чакаю спаткання. Аднак калі падумаю ўсур'ёз, калі панясе мяне амбіцыя, думаю, што лепш будзе, калі я да яе не паеду. Яна ж мела іншага, яна сама не хацела са мною весці перапіскі. Парай, што рабіць?

Міша

Дарагі Міша! З лісту твайго вынікае, што ты кахаеш Ніну. Разумею цябе, што пацярпела трохі твая амбіцыя. Аднак ты ж не ведаеш праўды. Не можна ж слухаць сяброў, якія не вядома, ці гавораць праўду. А па-другое, калі б гэта і так было, мо лепш, што так сталася. Відавочна Ніна пераканалася, што кахае толькі цябе. Інакш бы напэўна не напісала першая да цябе і не перапрашвала б. Ты павінен паехаць і сустрэцца з Нінай. Па яе паводзінах ты зразумееш, мо нават не трэба будзе кранаць гэтай непрыемнай тэмы. А тады ўсё будзе добра. І ты і Ніна будзеце задаволены. Бо гэты ж выпадак павінен вас пераканаць у вашым каханні. А гэта вельмі важна.

Жадаю ўсяго добрага
**Сэрцайка**



## Вуліца Гагарына

Грамадскім чынам і пры дапамозе дзяржавы бельшчане збудавалі прыгожую вуліцу Гагарына. Даўжыня яе 300 метраў, кошт 404 тысячы зл. Пры чыне асабліва добра заслужыліся працаўнікі Раённага прадпрыемства меліярацыйных работ і ПОМ-у.

**П. Зінкевіч.**

## Ад прыбытку баліць галава

Існуе такая пагаворка «ад прыбытку не баліць галава». Але на Сакольшчыне многім гаспадарам ад прыбытку забалела галава. Тут гаспадары многа сеюць сырадэлі. Да 1965 года ГС-ы куплялі насенне гэтай культуры і добра плацілі гаспадарам. У гэтым годзе сырадэля добра ўрадзіла. Але цяпер ГС-ы на Сакольшчыне не скупляюць насення сырадэлі, і гаспадары не маюць дзе дзяваць яго.

А.С.

## Зладзеі — хітруны

Мінае 22-гады пасля вайны, і зладзейства паволі занікае. Аб канакрадах ужо не чуваць. Але іншы выпадак здарыўся ў нас. Зладзеі, пераламаўшы столь у памяшканні ГРН у Юшкавым Грудзе, улезлі ўсярэдзіну і вывалаклі грашовую грамадскую касу. На жаль, грошай у касе было толькі 23 зл. Зладзеі занеслі скрынку ў багенца, пачалі адкрываць. Не ўдалося. Падумалі крышку і рашылі расклюваць царкоўную касу. Тут папалася ім 600—800 зл. Дагэтуль яшчэ невядомыя хітруны-зладзеі.

**М. С.**

## Актывісты грамадскай працы

Моладзь Беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя ў Бельску прымае актыўны ўдзел у грамадскіх працах. Ужо чатыры разы вучні гэтага ліцэя працавалі пры будове Відаўскай вуліцы. Яны перакідалі 100 кубічных метраў камення і зажвіравалі 700 кв. м. бруку. У працы прыкладам быў клас Хб. Вялікая заслуга ў арганізаванні чыну прыпадае дырэктару Мікалаю Гайдуку і выкладчыку Рышарду Палвінскаму. Павятовае праўленне дарог складае падзяку школе і яе людзям.

**П. Зінкевіч**

**На здымку: Вася Дамброўскі і Толік Абрамюк у час работы.**



го, што гітлерызм будзе знішчаны. Я працаваў для іх, бо ненавіджу вас...»[1])

Больш ад гэтага чалавека нельга было выцягнуць ніводнага слова. Назаўтра агенты СД накіраваліся на ўказанае месца, але ніхто на сустрэчу не прыйшоў. Модэль падазраваў, што схоплены радыст пакінуў нейкі папераджальны знак аб небяспецы ці папросту кпіў з іх.

Расчараваны Модэль вярнуўся ў атэль, дзе яго ўжо чакаў доктар Фаут, які прыбыў з Берліна па вельмі важнай справе. Пасля расшыфроўкі некалькіх радыёграм «П-Т-Ікс» яму ўдалося ўстанавіць, што чалавек, які меў псеўданім «Кент», быў, па ўсёй вераемнасці, кіраўніком бельгійскай групы.

— Гэта пацвярджаецца і зместам перадач ліквідаванай намі брусельскай радыёстанцыі, — гаварыў Фаут. — Чалавек па мянушцы «Кент» быў дасканала інфармаваны ў многіх справах, якія з'яўляюцца дзяржаўнай таямніцай III Рэйха.

— Ці можаце вы прыблізна акрэсліць, якую пасаду займаў гэты чалавек, з якімі людзьмі падтрымліваў кантакт? — не хаваючы скептызму, спытаў Модэль. — Бо, я думаю, наўрад ці ён палічыў магчымым прадставіцца вам асабіста.

— Вядома, ён асабіста не прадстаўляўся, — не крыўдзячыся, адказаў Фаут. — У радыёграмах ён заўсёды выступае пад псеўданімам «Кент», і, на маю думку, павінен займаць нейкую важную пасаду, бо часта ездзіць па Германіі і іншых краінах. Напрыклад, мы ўстанавілі, што ў мінулым годзе ён наведаў Аугсбург. Аднак, нельга высветліць, з кім ён там сустракаўся. Ён таксама вельмі добра інфармаваны аб будаўніцтве Атлантычнага вала.

— У такім выпадку можна лічыць, што мы натрапілі на яго след, — заўважыў Модэль. — Генерал Зуфенгаўзен павінен добра ведаць гэтага чалавека...

*(Працяг будзе)*

[1]) Аўтэнтычны тэкст, які захаваўся ў СД у матэрыялах следства.

# Цэны

Ваяводская камісія цэн пастаянна сочыць за цэнамі на кірмашах, дзе не абавязваюць дзяржаўныя цэннікі. Яе працаўнікі ў мінулым тыдні (у чацвер у Беластоку і Бельску, а ў сераду — у Гайнаўцы) аднатавалі наступныя цэны (ў злотых):

| прадукт | мера | Беласток | Бельск | Гайнаўка |
|---|---|---|---|---|
| жыта | цэнт. | 360 | 230 | — |
| пшаніца | цэнт. | 500 | 440 | — |
| яйкі | 1 шт. | 2,25 | 2 | 1,75 |
| масла | кг | 60 | 60 | 60 |
| свініна | кг | — | 38 | 35 |
| сала | кг | — | 35 | 35 |
| бульба | кг | 0,85 | 0,70 | 0,80 |
| цыбуля | кг | 5 | 5 | 4 |
| капуста | кг | 1 | 1,50 | 1 |
| морква | кг | 1,5 | 2 | 2 |
| буракі | кг | 2 | 2 | 2 |

# Кіно

Праграма
на 25—30.X.1966 г.

**ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ**

**Белавежа**
„Porucznik Marynin" (radz.), 25—26. „Nieletni świadek" (angl.), 27—28. „O carski tron" (bułg.), 29—30.

**Кляшчэлі**
„Porucznik Marynin" (radz.), 25—26. „Sklep przy głównej ulicy" (czeski), 27—28. „Rękopis znaleziony w Saragossie" (polski), 29—30.
„Miłość jednej nocy" (rumuński), „Dylemat" (duński), 29—30.

**Нарва**
„Mam tu swój dom" (polski), „Artysta do wszystkiego" (radziecki), 26—30.

**Нараўка**
„Kto sieje wiatr" (USA), „Dwadzieścia godzin" (węgierski), 26—30.

**Чыжы**
„Milczenie" (radz.), „Kronika jednego dnia" (radz.), 26—30.

**Дубічы Царкоўныя**
„Lęk" (czeski), „Testament uczonego" (radz.), 26—30.

**БЕЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Боцькі**
„Statek z dynamitem" (rumuński), 25—26. „Bestia" (węgierski), 27—28. „Przed nami zakręt" (radziecki), 29—30.

**Орля**
„Mam 20 lat" (radz.), „Kiermasz" (NRF), 26—30.

**Райск**
„Jesienny dzień" (wietnamski), „Kapral i inni" (węgierski), 26—30.

**БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ**

**Гарадок**
„Kwiecień" (polski), 25—26. „Pieczone gołąbki" (polski), 27—28.

**Міхалова**
„Jak się młody Noszty żenił" (węgierski), 25—26. „Profesor Mamlock" (NRD), 27—28. „Koniec nocy" (polski), 29—30.

**СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ**

**Нурэц**
„Dziewczęta" (radz.), 25—26. „Spacer po linie" (angl.), 27—28. „Kraksa" (radz.), 29—30.

**Мілейчыцы**
„Spotkanie w Warszawie" (polski), 25—26. „Baza ludzi umarłych" (polski), 27—28. „Fatalny list" (angl.), 29—30.

**САКОЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Крынкі**
„Złodziej brzoskwiń" (bułg.), „Starsza pani bez godności" (franc.), 27—28. „Barwy walki" (polski), 29—30.

**Шудзялава**
„Małpia kuracja" (USA), „Gdzie twoje miejsce" (czeski), 26—30.

**Сідра**
„Zobaczymy się w niedzielę" (polski), 25—26. „Dotknięcie nocy" (polski), 27—28. „Dzwonić Norsthide 777" (USA), 29—30.

**ТЭАТР ІМ ВЯНГЕРКІ**
**(выязная група)**

**Сямяцічы**
„Szklana menażeria" — 26.X.

**Саколка**
„Szklana menażeria" — 27.X.

НІВА

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP ;Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 6853 Bltk D-3

# КАПЦІЛКА

Вечарэла. На прыпынку ў Масціскаx выскачыла я з аўтобуса і іду да Касі Шуцікавай. От, думаю, уцешыцца мая сяброўка, з катораю мы калісь паслі коні. Ой, даўно ж мы нябачыліся! Падыходжу да дзвярэй, узялася за клямку, але бачу нейкі ланцуг брэнтаецца. Хата на жалезнае пута замкнёна. Вось табе й госці! Падыду да суседаў, папытаю. Але таксама дзверы засунуты на засаўку. Йду да другога суседа, але і тут клямка замкнёна на патычок. От шчасце! І так ад хаты да хаты апаляндравала я ўсе падворкі. Адно толькі шчасце, што невялікая вёсачка. Падыходжу да апошняй хаты. Ну, як і тут нікога няма... Але зірнула на падворак, а тут мужчыны, бабы і дзеці з цэлых Масціскаў. Можа што здарылася? Падыходжу я і кажу: — Добры дзень! Але ніхто мне не адказвае. — Мо ня чулі? Добры дзень, добрыя людзі! — А Ванька Гарлан на мяне як ястраб на тую курку накінуўся: — Ціха, не перашкаджай!

Паглядзела я, але нічога нявідна. Стаяць усе ля адчыненага акна і шэпчуць: — Пішы, толькі добра пішы!

Падышла я пад самае акно. Гляджу. а Вінцук Каркевіч у адной сарочцы, цэлы потам абліты, сядзіць пры стале пахіляны над нейкай паперай і нешта пяром матывуе. Змучаны цэлым ротам набраў паветра. Глянуў і зочыў мяне. Усміхнуўся прымільна і стаў хутка гаварыць: — Ах вы, Мальвінка, да нас прыехалі! — Бачыце, мы тутай цэлаю вёскай прашэнне пішам да самага дырэктара электрыфікацыі земляробства. Во, падумайце толькі, нашы дзяды і прадзеды жылі ў цемнаце а нам таксама прыходзіцца апошні год вялікага тысячагоддзя канчаць пры капцілцы. Увакола ўжо ўсе вёскі даўно электрыфікаваны. Зіхаціць святло ня толькі ў хатах, але ў хлявах і на гуліцы хоць ты іголкі збірай. А ў нас, як за бацюшкі цара, намогуць людзі адхрысціцца ад капцілкі і фанара. Зараз на вясне зачалі вазіць бетановыя стаўбы. Цешыліся людзі — будзем мець святло. І так мінула лета. Аблажылі вёску з двох бакоў бетановымі беленькімі стаўбамі, але што ж, стаўбы не свецяць! Пэўна забылі, каб ім у галаве засвяціла! І так прышла восень, дні кароткія, а мы жывём усяроўно, як тыя куры. Паўзірайцеся толькі, як для мае Любы ад дзьмухання ў прас, губы напапірала!

— А што з таго, што мой сынок прывёз мне тэлевізар!? — адазваўся ззаду Гарлан. — Каб быў на нафту або на ропу, то купіў бы бочку і хай усе глядзелі б. А так, то хоць ты бяры і прырабляй да разверка!

Усе ўголас засмяяліся. Але з натоўпу зазвінеў востры голас Гаруцкага: — Няма што жартаваць! Бачыце ўжо цямнее, а мы ня кончылі.

— Так, людзі, ужо робіцца цёмна, — пацвердзіў Каркевіч. Люба чыркнула запалку, запаліла закопчаную капцілку і падкрунула кнот. Каркевіч умачыў пяро ў чарніліцу і падняў руку. У гэты момант Люба, падаючы капцілку, зачапіла рукою за чарніліцу і на паперу разлілася — вялікая чорная пляма...

**Цёта Мальвіна**

# НІЎКА

### ЗДАГАДАЎСЯ

Янка пайшоў да Сцяпана. Таго дома не было. Ён пакрыўдзіўся і на дзвярах напісаў «Асёл!» Назаўтра, убачыўшы Сцяпана, ён сказаў:

— А я ўчора быў у цябе.

— Я здагадаўся, — сказаў Сцяпан.

— Як?

— А ты ж распісаўся на дзвярах.

### КАЛІ СТАНЕШ СТАРЫМ

Малады артыст спытаў галоўнага рэжысёра:

— Увесь час даручаеце мне выконваць ролі старых. Калі я буду іграць сваіх равеснікаў?

— Калі станеш старым, — адказаў рэжысёр.

### СПАХАПІЎСЯ

— Што ты падарыў жонцы на 8 сакавіка?

— А ці свята ўжо было?

— Было.

— Сёння ж паабяцаю купіць пральную машыну.

### ЛЕПШ ЕСЦІ ЛЕЖАЧЫ

Спыталі лайдака:

— Што лепей: есці ці ляжаць?

— Лепш за ўсё есці лежачы, — адказаў той.

### НЕ ВЕДАЕ

Суддзя: — Падсудзімы Драздовіч! Калі вы дакладна абакралі грамадзянку Сідарук?

Падсудзімы: — А хіба я на гадзіннік глядзеў, як краў?

### ВАЖНАЯ ПРЫЧЫНА

— Ты вельмі рэдка бываеш у клубе, Змітро.

— А туды толькі цвярозых пускаюць.

### НЕ СПАДЗЯВАЎСЯ

Суддзя: — Суд вас прыгаварвае да дваццаці год прымусовых работ.

Абвінавачваемы: — Вялікае вам дзякуй. Я і не спадзяваўся яшчэ так многа пражыць.

### ЗАМКНУТЫ КРУГ

У прыцемках сядзіць дзядзька і нешта намагаецца напісаць. Заходзіць сусед і пытаецца:

— Што ты тут робіш у поцемках?

— Пішу скаргу аб тым, што ў нашай краме няма газавых лямпаў.

— А навошта табе газавая лямпа?

— Каб напісаць скаргу аб тым, што ў нас не гарыць электрасвятло.

### НОВАЯ ІЛЮСТРАЦЫЯ ДА СТАРОЙ КАЗКІ




— На табе, старуха, новае карыта.



Без слоў.



Усё людское нам не чужое

## ВЯСЁЛАЯ БАЙКА

**Нічыпар атрымаў зарплату**
**І толькі на парог у хату**
**Наспеў ступіць,**
**Як жонка за яго ўзялася,**
**І звадка ўмомант пачалася:**
**— Зусім ты развучыўся піць,**
**Не муж — ты проста недарэка,**
**Хаця б з палучкі чалавекам,**
**Як іншыя, прыйшоў.**
**Ты ў рэстаран забыў дарогу ўжо.**
**— Даруй, — апраўдваўся**
**Нічыпар, —**
**Я грамаў дзвесце, пэўна, выпіў.**
**У рэстаране быў...**
**— А што ты піў?**
**Чаму не п'яны?**
**Я, ведай, не люблю падману! —**
**Крычала жонка так.**
**Стаяў Нічыпар-небарак,**
**Ды толькі паціскаў плячыма,**
**Вачыма лыпаў.**
**А жонка: — Што ты за мужчына,**
**Бутэльку б выпіў!**
**На бок Нічыпар павярнуўся,**
**За нос хапіўся і... прачнуўся.**

**Рыгор Яўсееў**



— Тата, не бі мяне, а то штаны зваляцца.

**Песні на заяўках**

На просьбе Валі Грыц з Цісоўкі, Валі са Збуча і Юркі Кардаш з калоніі Глейск, Беластоцкага павета, змяшчаем песню п.з.

## W SINĄ DAL...

**Słowa: B. Choiński i J. Gałkowski**
**Muzyka J. Matuszkiewicz**




Adela już zakłada suknię cienką,
na wiosnę kwiatki rosną i kwitnie miesiąc maj.
Gdy spytasz ją „dla kogo ta sukienka",
to dla kochasia, który odszedł w siną dal—...

W siną dal,
W siną dal,
to dla kochasia, który odszedł w siną dal..., dal...

Czerwone ma podwiązki pod tą suknią
— na wiosnę kwiatki rosną i kwitnie miesiąc maj.
Gdy spytasz ją — dla kogo taki luksus?
— To dla kochasia, który odszedł w siną dal.
W siną dal, w siną dal...
— To dla kochasia, który odszedł w siną dal.
U drzwi, u drzwi — jej tatuś czyści spluwę
— na wiosnę kwiatki rosną i kwitnie miesiąc maj.
Gdy spytasz go, na czyją to jest zgubę?
— To na kochasia, który odszedł w siną dal.
W siną dal! W siną dal!
To na kochasia, który odszedł w siną dal!
Nad łóżkiem ślub, stwierdzony rejentalnie
— na wiosnę kwiatki rosną i kwitnie miesiąc maj.
Dla kogoż to? Z kim żyjesz tak moralnie?
— Rzecz prosta, że z kochasiem,
który odszedł w siną dal.
— W siną dal, w siną dal
pomaszerował lewa — prawa w siną dal.

# КУРЁЗЫ

### Абодва выздаравелі

Французскі селянін лячыўся ў парыжскага доктара. Пасля выздараўлення ўрач наведаў пацыента і гаворыць: «Ну, дарагі Мішэль, хіба ж ты не абяцаў мне парася, калі я вылечу цябе?» Пацыент: «Ведома, пан доктар, я не забыўся, але ж між тым парася таксама выздаравела».

### Жонка дапамагла

На іпадроме ў Будапешце адзін заўзяты ігрок ставіць 10 форынтаў на каня па клічцы «Лодар». І раптам выйгрывае некалькі тысяч. «Адкуль ты даведаўся, што трэба ставіць на „Лодара"?» — пытаецца ў яго сябар. «Ад маёй жонкі. Гэта было яе апошняе слова, калі я сказаў, што іду на скачкі».

### Міністры - медаляносцы

Таварыства сяброў піва ў Заходняй Германіі ўзнагародзіла трох заходнегерманскіх міністраў Дальгруна, Хёхерля і Люке «залатым медалем паклоннікаў піва».

### Такія самыя

Адзін мяснік у Гановеры выставіў у вітрыне свайго магазіна такі надпіс: «Купляйце цудоўныя паштэты. Яны дакладна такія, якія рабіла ваша жонка, пакуль вы не набылі тэлевізар».






Не кожны брунет — цёмная асоба, не ў кожнага бландзіна — светлая галава.